ГОД V САКАВІК-КРАСАВІК № 2 (41)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ



« SUR LA VOIE DIVINE »
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN
Année V. N° 2 (41) Mars-Avril 1951
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 50 фр. | 300 фр. |
| Англія | 1 ш. 5 пэн. | 7 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 1 ш. 10 пэн. | 9 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 45 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. |
| Нямеччына | 70 пф. | 4 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI$^e$.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovič, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE, Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Vostrykau Michel, 8, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenische Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
M. Bahdanovic — Weissruthenische Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Maran House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenische Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Хто сам такі, той на другіх кладзе знакі.
Хто сам сябе хваліць, хай таго пярун спаліць.
Хто сьпіць да сонца, таго хлеб у машонцы.
Хто ў Бога ня верыць, таму і людзі ня вераць.
Хто ўлетку халадуе, той узімку галадуе.
Хто ў малым дзеле дурны, той і ў вялікім разумны ня будзе.
Хто цераз хлеб хлеба шукае, той часта галадае.
Хто цярпён, той спасён.
Хто чаго шукае, той тое і мае.
Хто што ўмее — за плячыма ня носіць.
Царква, як матка родная; усіх да Бога склікае.
Цераз сілу і конь ня цягне.
Ці даў я табе, бабка, шэлягa? Даў, дзякую!
Ці савою аб пень, ці пнём па саве, усё саве баліць.
Ці як адзін адрэзаў нос, дык і другія пойдуць рэзаць?
Цыган цыганскую й праўду гаворыць.
Цяпер нас катуеш, можа калі і сам патанцуеш.
Цярпеньнем і працай горы пераносяць.
Хто рана ўстае, таму Бог дае.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год V. САКАВІК — КРАСАВІК 1951 № 2 (41).

# Аднаўленьне ў Хрысьце

Прыходзяць і прайходзяць меншыя і большыя сьвяты, але для шмат каго яны мінаюць бясьсьледна. Гэта здараецца перадусім тады, калі сьвяты ўспрыймаюцца толькі ў іхных вонкавых праявах, не зьвяртаючы належнае ўвагі на іхны зьмест.

Магчыма дзеля гэтага так мала сапраўднае радасьці на сьвеце, бо-ж нават Уваскрасеньне Хрыста — найбольшае сьвята і найбольшая крыніца радасьці і суцяшэньня сьвяткуецца вельмі няўважна, а ў эміграцыйных умовах дык часта і зусім не сьвяткуецца. Пазбаўленыя такое вялікае крыніцы радасьці, людзі часта шукаюць штучных спосабаў разьвесяленьня, але ў іхных душах заўсёды астаецца шэрая і сумная будзёншчына. Гэта тымбольш сумна, што побач існуе несьсякаючая крыніца радасьці. У гэткім палажэньні людзкая душа прыпадобніваецца да пустыні Сахары.

Ня так даўно дасьледнікі выкрылі, што ў глыбіні якіх 800 м. пад пясчанай паверхняй Сахары ёсьць аграмаднае возера-мора, якое магло-б ператварыць усю пустыню ў багатую краіну, але між тым возерам і паверхняю пустыні няма лучнасьці, дык і далей пустыня астаецца пустыняю. Толькі вечарамі пасьля асабліва гарачых дзён, калі тэмпэратура пачынае ападаць, сумны гук, падобны да ціхага галошаньня, разьлягаецца па ўсёй пустыні. Гэта дробныя пясчынкі ахаладжваючыся, паціраюцца ўзаемна і вытвараюць манатонны сумны зойк. Мясцовыя качавікі тады кажуць: «Пустыня плача». І дадаюць, што яна плача дзеля таго, што была калісь квітнеючаю краінаю, а цяпер аплаквае сваё гібеньне.

Нешта падобнае дзеецца і з людзкою душою, калі яна ня мае лучнасьці з Хрыстом, тады яна так-жа замяняецца ў духовую пустыню і часта сумуе.

Такія ўжо Божыя пляны кіраваньня сьветам і чалавекам, што толькі ў лучнасьці з Богам можа быць сапраўднае шчасьце чалавека. Калі, пасьля свайго блуканьня па жыцьцёвых бездарожжах, сьв. Аўгустын зьвярнуўся да Бога, тады напісаў між іншым адзін сапраўды залаты сказ: «Ты (о, Божа) стварыў нас для Сябе і неспакойнае наша сэрца, пакуль не спачне ў Табе». Але гэта магчымае ў будучым жыцьці, а тымчасам кожнаму чалавеку неабходна ў дачасным жыцьці хоць час ад часу стрэнуцца з Хрыстом, каб ня згубіцца ў жыцьцёвых пуцявінах, каб ня страціць таго жыватворчага сьвятла, якое асьвятляе тэтыя пуцявіны.

Праўда цяпер мы ня можам так стрэнуцца з Хрыстом, як калісь пасьля ўваскрасеньня сустракаліся з Ім апосталы і міраносіцы, але затое мы маем іншыя магчымасьці, устаноўленыя самым Хрыстом, каб стрэнуцца з Ім. У вялікодны час ёсьць асаблівая нагода выкарыстаць гэтыя магчымасьці.

Царкоўнае прыказаньне кажа, што кожны вернік павінен штогод прынамся раз каля Вялікадня (а калі гэта чамусь немагчыма дык перад Сёмухаю), выспаведацца і запрычашчацца. Гэтае прыказаньне апіраецца на словах Хрыста, якія Ён сказаў яшчэ перад устанаўленьнем сьв. Эўхарысты; «Калі ня будзеце есьці цела Сына Чалавечага і піць крыві Яго, то ня будзеце мець у сабе жыцьця». «Хто есьць Маё цела і п'е Маю кроў, ува Мне астаецца і Я ў ім» (Ів. VI, 53, 56). А гэта ёсьць ня толькі сустрэча з Хрыстом, але прыняцьце Яго ў наша сэрца; ці-ж можа быць больш блізкае злучэньне? Магчымасьць гэткага злучэньня здараецца ня толькі раз на год, але нават штодня.

Іншая магчымасьць быць блізка Хрыста ёсьць больш простая і палягае ў хрысьціянскай лучнасьці з сваімі бліжнімі. «Дзе двое, ці трое зьбярэцца ў імя Маё там і Я сярод іх» (Мат. XVIII, 20) навучаў Хрыстос сваіх вучняў. Асабліва ў вялікодны час Царква заклікае вернікаў выканаць гэтую раду Хрыста, каб дараваўшы ўсім усе крыўды, дзеля ўваскрасеньня Хрыста, магчы супольна адным сэрцам славіць Яго і магчы кожнага абняць у братнія абыймы; гэта асноўная ўмова на тое, каб Хрыстос мог быць між намі. Нажаль сучасны сьвет стаіць далёка ад гэтае рады і замест братніх абыймаў паасобныя людзі і цэлыя народы часта капаюць сабе ўзаемна воўчыя ямы. Дык ці-ж дзіўна, што на сьвеце мала сапраўднае радасьці?!

Патрымай у руках некалькі хвілін пахучае яблыка, а доўга пасьля гэтага будуць прыемна пахнуць твае рукі. Засьпявай у лесе прыгожую песьню і рэха доўга будзе разносіць яе. Стрэнься з

добрым чалавекам, пагутары з ім шчыра, а доўга ў памяці астанецца прыемны ўспымін. — Дык ці-ж дзіва, што сустрэча з Хрыстом пакідае ў душы чалавека незацёрты сьлед?! І як шмат трацяць тыя людзі, якія ня выкарыстоўваюць нагодаў да гэтых сустрэчаў!

Але наша людзкая натура мае шмат розных выкрутаў для апраўданьня сваіх слабасьцяў. — «Каб мы бачылі на свае вочы ўваскросшага Хрыста, дакрануліся да Яго сваімі рукамі, як калісь ап. Тамаш, дык-бы пэўна былі лепшымі вернікамі», думае не адзін. «Каб мы чулі сваімі вушамі навуку Хрыста, дык-бы пэўна ўспрынялі яе шчырым сэрцам», — паўтарае іншы. «Каб бачылі Ягоныя цуды, дык-бы пэўна ня сумняваліся ў сьвятых праўдах веры», — разважае трэці. — Калі-б гэткія і ім падобныя меркаваньні былі праўдзівыя, дык-бы ўсе сучасьнікі Хрыста былі шчырымі вернікамі, але факты сьведчаць аб чым іншым, таму замест апраўданьня сваіх слабасьцяў варта лепш пашукаць тых сьцежак, якія вядуць да спатканьня з Хрыстом і да ўмацаваньня нашае веры. Ці-ж мала ёсьць навокал нас праваобразаў уваскрасеньня, якія мы і бачым, і чуем, і дакранаемся да іх, і адначасна так прывыкаем да іх, як штодзенных зьявішчаў так, што нават не зьвяртаем на іх асаблівае ўвагі, як калісь сучасьнікі Хрыста не зьвярталі ўвагі на Яго.

Наш звычайны штодзенны сон вельмі падобны да сьмяротнага сну, а прабуджэньне — да ўваскрасеньня, але колькі людзей задумоўваецца аб гэтым? Пэўна ёсьць такія людзі, але яны капля ў людзкім бязуважным моры. Штогод прырода вясною прабуджаецца з зімовага сну, але мы найчасьцей абыякава перажываем гэтае зьявішча. Калі прарастае засеенае збожжа і ўсходзяць з-пад зямлі першыя парасткі, колькі людзей падумае над гэтым, што вось перад намі абраз ўваскрасеньня з зямлі людзкога цела?! Рэдка хто засьвечваючы электрычную лямпачку, падумае над тым, што ўласьціва гэта-ж цудоўнае ўваскрасеньне сонечнае энэргіі, якая сотні тысяч гадоў таму была злоўлена лісьцямі дрэваў, пахаваная глыбока пад зямлёю і ператвораная там у каменны вугаль. Цяпер калі выкапалі гэты вугаль, укінулі яго ў печ, ажыла, уваскросла ў ім даўно схаваная энэргія і ператварылася зноў у цяпло і сьвет. Навейшыя навуковыя адкрыцьці падобных цудаў выкрываюць штораз больш там, дзе мы іх раней і не спадзяваліся.

Ёсьць глыбокі сэнс у вышэйпаданых прыкладах. Яны сьведчаць аб тым, што ў матэрыяльнай прыродзе магчыма, а ў некаторых выпадках дык нават неабходнае абнаўленьне.

Чалавек у прыродзе займае асаблівае становішча. Для аднаўленьня фізычных сілаў чалавека выстарчае матэрыяльнае аджыўленьне і нармальны сон, а для аднаўленьня духовых сілаў ужо неабходнае сьв. Прычасьце, для аднаўленьня-ж усяе людзкое істоты, значыць і душы і цела да такое ступені, каб стацца здольным да вечнага жыцьця ў небе, патрэбна поўнае абнаўленьне ў Хрысьце — уваскрасеньне.

Трэба тут падчыркнуць слова **ўваскрасеньне** — гэта ня звычайны паварот да таго земскага жыцьця, поўнага гора і сьлёз, якое мы маем на зямлі, бо-ж з гэткага жыцьця нельга было-б радавацца не зважаючы на ніякія заклікі Царквы. Што сказалі-б на такі заклік нязьлічаныя мільёны бяздольных?! Уваскрасеньне мае быць спалучана з удзелам у вечнай радасьці — вось дзеля чаго Царква заклікае вернікаў правесьці вялікодны час у радасьці.

Людзі, якія ўважліва назіраюць прыроду, кажуць, што пасьля ўпадку ў грэх нашых прабацькоў, у матэрыяльным сьвеце асталіся толькі тры прыгожыя рэчы: на небе — зоры, на зямлі — кветкі, а між людзей — нявінныя вочы дзяцей. Сапраўды гэта вельмі прыгожыя рэчы, але як часта цёмныя хмары засланяюць зоры; лютыя марозы нішчаць кветкі; грэх нішчыць красу нявінных вачэй, а сьмерць заплюшчвае іх зусім і засыпае зямлёю. Але як прамінаюць на небе цёмныя хмары, як мінае лютая зіма, таксама ня вечнае валадарства сьмерці над чалавекам. Пасьля таго, як уваскрос Хрыстос, сьмерць перастала быць страшнай для вернікаў, бо за яе магільнаю цемраю, за сьмяротнаю руінаю мае наступіць сьветлае ўваскрасеньне адноўленага чалавека. Як зьзяе сонца пасьля непагоды, так зазьзяе ўва ўсёй сваёй красе чалавек, калі ўваскросьне, як удзельнік вечнага шчасьця, і заіскрацца тады вочы няземскаю красою. Перажыць хвіліну гэткае радасьці, хоць-бы толькі ў няясным прадчуцьці, ёсьць глыбокі сэнс сьвяткаваньня ня толькі самога Вялікадня, але ўсяго пасьлявялікоднага часу. Страціць гэтае шчасьце, ёсьць найбольш страшнаю стратаю.

Хрыстос уваскрос не на адзін дзень, а назаўсёды і даў сьведоцтва перамогі жыцьця над сьмерцю, праўды над крыўдай, Божае ўсемагутнасьці і міласэрнасьці над подступамі граху, дабра над злом — ня толькі для апосталаў, але для ўсяго сьвету. Дык і мы ня толькі можам, але мусім карыстаць з дабрадзействаў уваскрасеньня Хрыста.

Беларускі народ шмат цярпеў на працягу вякоў і сёньня цярпіць страшэнны зьдзек і мукі, цярпіць нямала і беларуская эміграцыя. У гэткіх абставінах што-ж лепшага можна пажадаць, як хуткага ўваскрасеньня да свабоднага і незалежнага жыцьця адноўленае бацькаўшчыны і каб Бог дазволіў нам у блізкай будучыні адсьвяткаваць там Вялікодныя сьвяты, а перадусім і ў першую чаргу жадаем усім сваім чытачом і ўсяму беларускаму народу ўжо цяпр перажыць хвіліну прадчуцьця радасьці вечнага шчасьця, як заруку нашага збаўленьня.

# Добрыя ўчынкі

Аб тым, якое вялікае значэньне маюць для кожнага чалавека добрыя ўчынкі, можна ясна бачыць са слоў Хрыста, калі Ён гаворачы аб сваім другім прыходзе на зямлю, прадстаўляе яго, як разрахунак з людзьмі за добрыя ўчынкі і за іх занядбаньне. «Калі Сын Чалавечы прыдзе ў славе сваёй з усімі ангеламі, тады сядзе на пасадзе свае славы. І зьбяруцца перад Ім усе народы, і разлучыць іх адных ад другіх, як пастыр разлучае авец ад казлоў. І паставіць авец праваруч сябе, а казлоў леваруч. Тады скажа Цар тым, што праваруч Яго: — Прыдзеце багаслаўлёныя Айца Майго і атрымайце валадарства, прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету. Бо Я быў галодны і вы далі Мне есьці, меў смагу, і вы напаілі Мяне; быў вандроўным, і вы прынялі Мяне; быў голы, і вы адзелі Мяне; быў хворы, і вы адведалі Мяне; у вязьніцы быў, і вы прышлі да Мяне. — Тады праведнікі скажуць Яму ў адказ: — Госпадзе, калі мы бачылі Цябе галодным і накармілі, або смагнучым і напаілі? Калі мы бачылі Цябе вандроўным і прынялі? або голым і адзелі? Калі бачылі Цябе хворым, або ў вязьніцы і прышлі да Цябе? — І адкажа ім Цар у адказ: «Сапраўды кажу вам: таму што вы зрабілі гэта аднаму з братоў Маіх меншых, Мне зрабілі. — Тады скажа тым, што леваруч Яго: — Ідзеце ад Мяне праклятыя ў агонь вечны, прыгатаваны чарту і ангелам ягоным. Бо Я быў галодны, і вы не накармілі Мяне; меў смагу, і не напаілі Мяне; падарожным быў, і ня прынялі Мяне; голы, і не адзелі Мяне; хворы і ў вязьніцы, і не адведалі Мяне. Тады адкажуць Яму і тыя: — Госпадзе, калі мы бачылі Цябе галодным, або смагнучым, або падарожным, або голым, або хворым, ці ў вязьніцы і не паслужылі Табе? — Тады адкажа ім: — Сапраўды кажу вам, таму што не зрабілі гэтага аднаму з тых меншых братоў Маіх, Мне не зрабілі. — І пойдуць гэтыя ў муку вечную, а праведнікі ў жыцьцё вечнае» (Мат. XXV, 31-46).

На аснове гэтых слоў Хрыста сьвятыя айцы стварылі прыгожую прыповесьць аб найлепшым прыяцелю чалавека. Яе зьмест такі:

Якісьці чалавек меў трох прыяцялёў. Аднаго з іх любіў вельмі моцна, другога менш, а трэцяга агулам мала цаніў. Здарылася таму чалавеку пайсьці на суд і тады найбольш любы прыяцель адразу пакінуў яго; другі давёў да дзьвярэй суду і далей не пайшоў; толькі трэці прыяцель пайшоў разам на суд і абараніў яго. Суд у гэтай прыповесьці азначае суд пасьля сьмерці. Першы прыяцель — гэта багацьцё і дачасныя дастаткі, людзі цэняць іх найбольш, але ў хвіліне сьмерці яны пакідаюць чалавека. Другі прыяцель — гэта родныя і знаёмыя; яны яшчэ па сьмерці могуць пахаваць свайго бліжняга і зладзіць хаўтуры. Толькі трэці прыяцель — добрыя ўчынкі йдуць разам з душою чалавека перад пасад Усявышняга і там апраўдваюць чалавека і здабываюць нагароду. Таму і навучаў Хрыстос, не ўганяцца за дачаснымі дастаткамі, але зьбіраць скарбы добрых учынкаў: «Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе ржа і моль іх нішчыць, і дзе зладзеі падкопваюцца і крадуць, але зьбірайце сабе скарбы на небе, дзе ні ржа, ні моль іх ня нішчаць, і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць» (Мат. VI, 19-20).

Можна сказаць, што добрыя ўчынкі так патрэбны для збаўленьня душы, як ежа для жыцьця цела. І так, як у штодзенным жыцьці неабходна здабываць ежу для падтрыманьня дачаснага жыцьця, трэба так-жа зьбіраць добрыя ўчынкі для асягненьня жыцьця вечнага.

Вартасьць нябеснага скарбу добрых учынкаў залежыць і ад колькасьці, і ад якасьці ўчынкаў. Але Бог і лічыць, і мерае нябеснымі мерамі.

Бог зусім ня лічыць тых добрых учынкаў, якія робяцца для людзкога вока: «Глядзеце, не давайце міластыні вашае перад людзьмі, так каб яны бачылі вас, бо тады ня будзе вам нагароды ад Айца вашага, што ў небе» (Мат. VI, 1).

Затое Бог рахуе ўсякі, нават найдрабнейшы ўчынак, калі ён зроблены ад шчырага сэрца і ў імя Божае. «Хто напоіць аднаго з малых гэтых толькі чаркай сьцюдзёнае вады ў імя вучня, сапраўды кажу вам, ня страціць нагароды свае» (Мат. X, 42).

Як Бог ацэньвае вартасьць добрых учынкаў, бачна з таго, як Хрыстос ацаніў дробную ахвяру — грош беднае ўдавы, ахвяраваны на Ерузалімскую сьвятыню: «Сапраўды кажу вам, што гэтая бедная ўдава палажыла больш за ўсіх» (Марко XII, 43), бо яна давала не з дастаткаў, але з свае ўбогасьці ад найшчырэйшага сэрца.

Гісторыя дае нязьлічаныя прыклады, што і людзі цэняць гэткія дарункі незалежна ад іх матэрыяльнае вартасьці. Сьвяцейшы Айцец Пій XII з усіх дарункаў, якія да сёньня атрымаў ад вернікаў, найбольш цэніць падзёртую ляльку круглае сіраты. Атрымаў Ён яе ў часе апошняе сусьветнае вайны, калі на адной з больших аўдыенцыяў прысутнічалі дзеці з аднаго рымскага сірацінца. Калі Сьвяцейшы Айцец уканцы аўдыенцыі, багаслаўляючы паасобных вернікаў, падыйшоў да маленькае сіроткі, тая пацалавала ягоную руку і затрымаўшы яе падала сваю неразлучную ляльку, кажучы: «Сьвяцейшы Ойча, я чула, што Вы робіце шмат добрага для ўсіх і асабліва для нашага сірацінца, Вам за гэта іншыя даюць розныя дарункі на знак удзячнасьці, дык і я хачу зрабіць Вам падарак, але ў мяне няма больш нічога, акрамя вось гэтае лялькі, дык прымеце яе,

як падарак ад мяне». І прыняў Сьвяцейшы Айцец ляльку беднае сіраты, і палажыў гэты ўбогі дар побач укрыжаваньня на сваім працоўным стале. Гэта адзіны дарунак ад вернікаў, які ляжыць на тым стале, каля якога вырашаюцца справы сусьветнага значэньня.

Уканцы хоць коратка трэба зазначыць, што добрыя ўчынкі маюць вялікае значэньне ня толькі для будучага жыцьця, але і для дачаснага, бо яны ўшляхотнююць душу чалавека і збліжаюць яе да Бога. Яшчэ перад Хрыстом рымскі філязоф і грамадзкі дзеяч Цыцэрон (104-43) казаў: «нічога так чалавека ня зближае да Боства, як ашчасьліўліваньне іншых людзей». Гэтая думка зусім згодная з Хрысьціянскаю навукаю аб добрых учынках. «Шчасьлівыя міратворцы, бо яны будуць названы Божымі сынамі (Мат. V, 9), навучаў Хрыстос на пачатку свае вучыцельскае дзейнасьці.

Калі законьнік пытаў Хрыста, што рабіць, каб атрымаць жыцьцё вечнае, дык Хрыстос у адказ сказаў прыповесьць аб міласэрным Самараніне, які выратаваў жыцьцё параненаму жыду і ўканцы параіў законьніку: «Ідзі і ты рабі гэтак» (Лук. 25-27).

Усё сьв. Эвангельле ад пачатку да канца сьведчыць аб тым, што добрыя ўчынкі можна рахаваць найбольш простым і пэўным шляхам, які вядзе чалавека да Бога. Калі гэтую думку прадставіць графічна, як гэта зрабіў ужо ў VI в. авва Даратэй, малюючы ўвесь круг людзкіх інтарэсаў, як колы рознае вялічыні, а Бога, як цэнтр, кола на знак таго, што Ён ёсьць цэнтрам сусьвету, дак з гэтага малюнку стала ясна, што людзі, якія йдуць да Бога, ў цэнтр кола, тым самым збліжаюцца да сябе, значыць зьменшваюць су-



пярэчнасьці, якія іх дзеляць. Наадварот, людзі, якія ўцякаюць ад Бога, тым самым разыходзяцца далей ад сябе, прорва між імі пабольшваецца. У гэтым і ёсьць аграмаднае значэньне добрых учынкаў для грамадзкага жыцьця. Штодзенна можна назьбіраць нязьлічаныя факты, якія пацьвярджаюць гэтую думку амаль на кожным кроку.

Карыстаючыся гэтаю схэмаю магчыма было-б нават азначыць ступень хрысьціянскае дасканаласьці кожнага чалавека, толькі што няма магчымасьці заглянуць у людзкую душу. Ды гэта і непатрэбна для хрысьціянскае дасканаласьці. Хай кожны сам загляне ў сваю душу і паспрабуе азначыць ступень свае дасканаласьці, а перадусім той кірунак, у якім ён ідзе: ці да Бога, ці ад Бога? Ня выключана, што гэткае разважаньне можа не для аднаго стацца зваротным пунктам на добры жыцьцёвы шлях.

**а. Л. Гарошка.**

# МАСОНСТВА

Слова «масон» француская паходжаньня і ў перакладзе на беларускую мову азначае «муляр», але таму, што гэтае слова служыць для азначэньня сяброў аднае тайнае шырокараспаўсюджанае арганізацыі «Вольных муляроў», дык яго звычайна не перакладаюць.

У гутарках, газэтах і часапісах словы: масон і масонства сустракаюцца ня рэдка, але дакладнейшыя весткі аб гэтай арганізацыі атрымаць даволі цяжка, бо масоны забавязаны строгаю прысягаю трымаць у сакрэце істотныя весткі аб жыцьці і дзейнасьці свае арганізацыі. Праўда ёсьць масонскія кніжкі і газэты, якія не падлягаюць сакрэтнаму перахоўваньню, а самыя масонскія арганізацыі, іхныя статуты і лёжы ў некаторых краінах праўна залегалізаваныя, аднак міма ўсяго гэтага сапраўднае аблічча масонства прыкрыта строгім сакрэтам.

Але з Божае волі «няма нічога тайнага, што-б ня выявілася, ні ўкрытага, што ня сталася-б вядомым і ня выйшла-б наверх» (Лук. VIII, 17). Дык ня гледзячы на ніякія мерапрыемствы для захаваньня тайны, часам пранікаюць сакрэтныя весткі аб масонстве ў шырэйшыя кругі грамадзянства і хоць звычайна такія весткі масоны стараюцца чымхутчэй зьнішчыць, але ўсё-ж праз гэта стаецца магчымым дакладней пазнаць гэтую арганізацыю і зразумець шматлікія падзеі ў грамадзкім і міжнародным жыцьці, бо масонства стараецца мець сваіх сяброў пераважна ў найбольш уплывовых і кіруючых кругох грамадзянства.

Пачаткі масонства губляюцца ў шэрай мінуўшчыне. Самыя масонскія гісторыкі (як, напр., Р. Бэкстэр, Гульд і інш.) стараюцца знайсьці пачатак масонства ў дахрысьціянскіх містэрыях, некаторыя асновапаложнікам масонаў уважаюць жыдоўскага будаўнічага Гірама, галоўнага дойліда жыдоўскае сьвятыні ў Ерузаліме за часоў Со-

лёмона, іншыя зноў хочуць дабачыць пачатак масонаў у гностычных хрысьціянскіх сэктах. — Доказаў на гэтыя дагадкі няма ніякіх. Пэўным аднак ёсьць той факт, што масоны існавалі ўжо ў позным сярэднявеччу. Тады рамесьнікі кожнага фаху мелі свае арганізацыі так званыя цэхі, гэта былі першыя прафэсыйныя саюзы работнікаў. Муляры і дойліды (будаўнічыя) мелі так-жа свой цэх і згодна з тагачаснымі правамі сьцераглі сакрэтаў свайго рамясла. Самазразумела, што будова мураваных сьвятыняў і асабліва большых базылікаў была немагчымая бяз добрых спэцыялістаў і гэта ў пабожным сярэднявечч спрыяла таму, што цэх муляроў набраў асаблівага значэньня. У гэтым-жа часе ягоныя кіраўнікі побач чыста прафэсыйных спраў пачалі займацца рознымі філязафічнымі спэкуляцыямі, уводзіць культ Найвышэйшага Будаўнічага, забавязваць сяброў цэху да «будаваньня сьвятыні ў сваёй душы на ўзор Ерузалімскае сьвятыні» і інш.; ператвараючы гэткім чынам прафэсыйны цэх у спэкулятыўную арганізацыю. Мейсца сваіх зборак пачалі называць лёжамі, а сябе — братамі вольнымі мулярамі.

Калі 27-га чэрвеня 1717 г. у Лёндане злучыліся чатыры апошнія лёжы вольных муляроў у адну т. зв. Вялікую Лёжу, прыймаючы новы статут апрацаваны пастарам Джэмсам Андэрсонам, дык гэта было афіцыяльнаю датаю, калі стары цэх муляроў замяніўся ў сучасных масонаў. Даўнейшыя мулярскія прылады і вопратка, як: цырклі, трыкутнікі, хвартухі і інш. замяніліся ў сымбалі, а калішнія тры ступені сяброў цэху: вучні, падмайстры і майстры разрасьліся аж да 25 ступеняў, а потым да 33 з такім разьлікам, каб «браты» меншых ступеняў ня ведалі, што робяць «паважаныя браты» на кіраўнічых становішчах. Прыняцьце ў рады масонаў значна ўскладнілася і аформілася ў складаную цэрэмонію.

З Англіі масоны хутка пранікнулі ў іншыя краіны. Асабліва моцна разраслося масонства ў Францыі і падрыхтавала грунт да рэвалюцыі 1789 г. У меру разросту масонства, яно распадалася на некалькі зусім незалежных кірункаў. Англійскае, скандынаўскае і паўночна-амэрыканскае масонства ў тэорыі захавала да сёньня прызнаньне існаваньня Бога і нават вымагае ад сваіх братчыкаў прыналежнасьці да якога небудзь хрысьціянскага веравызнаньня; затое большая частка француcкага масонства, а разам з ім масонства лацінскіх краінаў, аб'яднанае вакол цэнтральнае лёжы Вялікі Усход, маюць ваюючa бязбожніцкі характар.

Сёньня ў кожнай краіне, дзе ёсьць масоны, маюцца іхнія лёжы розных кірункаў. Напрыклад ў Францыі акрамя ўспомненае вышэй лёжы Вялікі Усход ёсьць яшчэ т. зв. Вялікая Лёжа, якая ў прынцыпе дазваляе сваім братчыкам прызнаваць Вялікага Будаўнічага; ёсьць яшчэ колькасна невялікія дзьве іншыя цэнтральныя лёжы меншага значэньня. Але да гэтага часу агульны тон сусьветнаму масонству надае цэнтральная лёжа Вялікі Усход.

Не зважаючы на розныя разьбежнасьці ў праграмах і абрадах паасобных лёжаў, усе яны маюць адну супольную рысу: прапаганду ляіцызму (сьвецкасьці) і жаданьне захапіць абсалютную ўладу над усім чалавецтвам так фізычна, як і духова. Праўда масоны прапаведуюць узаемную помач і маюць розныя гуманітарныя клічы, але ўсё гэта адносіцца толькі да сваіх сяброў. Для праводжаньня сваіх ідэяў масоны стараюцца ўсюды заняць кіруючыя становішчы, завесьці безьверавызнавальныя школы, сьвецкія сужэнствы, падтрымоўваюць фальшывыя рэлігіі і сэкты за ўсякую цану стараюцца зьнішчыць хрысьціянскую мараль і завескі сьвецкую этыку (бяз Бога) і інш.

У гэтай дзейнасьці найбольшаю перашкодаю для масонства ёсьць Каталіцкая Царква, дзеля гэтага масоны адносяцца да каталіцызму з асаблівaю варожасьцю і ў першую чаргу да папы. У мінулым стагодзьдзі лёжа Вялікі Усход была кінула кліч: Трэба выцяць хрысьціянства перш-на-перш у галаву (значыць у папства). Масонскі энцыклёпэдычны слоўнік, выданы ў Барцэлёне 1883 г., кажа: «Масоны маюць на мэце паўсюды раздушыць і зьнішчыць каталіцтва». Гэтая варожасьць да каталіцызму, як першая стадыя ў пляне масонаў для зьнішчэньня хрысьціянства, часам прымае сапраўды несамавіты характар, бо яно ставіць сабе, як канчатковую мэту: «перамогу чалавека над Богам» і лютуе на папства, як на найбольшую перашкоду ў гэтым змаганьні. На міжнародным зьезьдзе вольнадумцаў выразна гаварыў аб гэтым масон Ляфарг: «Вось ужо 400 гадоў, як мы падточваем каталіцызм, гэтую наймацнейшую ў сьвеце духовую машыну; аднак яна яшчэ моцная! Вайна Богу! Нянавісьць да Бога! У гэтым увесь прагрэс. Трэба пракалоць неба, як папяровае скляпеньне», — крычаў у прыступе шчырасьці і лютасьці Ляфарг.

Аднак публічна з гэткімі клічамі масоны ня выступаюць так галасна. Агулам ўва ўсёй сваёй дзейнасьці яны калі выступаюць, дык найчасьцей пад покрышкаю іншых арганізацыяў. У 1922 г. лёжа Вялікі Усход прыпамінала сваім братчыкам, што «масонства павінна адчувацца ўсюды, але нідзе не павінна быць яўным». Яны дзейнічаюць быццам нейкія таёмныя чорныя рукі з-пазавугольля. А нават і ў лоне самога масонства ўласьцівыя кіраўнікі астаюцца прыхаванымі. Напрыклад у лёжы Вялікі Усход вялікі процант сяброў жыдоў навонках не праяўляецца.

У сваёй дзейнасьці масонства стараецца выкарыстаць усе рэвалюцыйныя групоўкі і партыі. Ня ёсьць ніякім прыпадкам, але плянаваю масонскаю дзейнасьцю, што масон «брат» Керанскі да-

пусьціў у Расеі да ўлады бальшавікоў, а сёньня зноў прабуе ажывіць сваю дзейнасьць. Іншы масон «брат» Королій дапусьціў да ўлады бальшавікоў у Мадзяршчыне, масон Бэнэш дапусьціў бальшавікоў да ўлады ў Чэхаславаччыне — у падзяку за гэта і сам ня жыве і масонскія лёжы ў Чэхаславаччыне разьвязана 1-IV-1951.

Ня лепш было і ў мінулым, калі разбуральная дзейнасьць масонства спадала адным канцом і на іхныя галавы, аднак засьляпленьне масонства відаць ня мае межаў. Праўда апошнім часам калі-ні-калі адзываюцца трывожныя галасы нават і спаміж масонаў; у 1939 г. некаторыя масонскія кіраўнікі нават з найбольш бязбожнае лёжы Вялікі Усход у сваім бюлетэні ставілі нясьмелае пытаньне, ці «масонства ня йдзе па шляху да свае загубы?», але шчырага і сумленнага адказу на гэтае пытаньне масоны баяцца даць.

Каталіцкая Царква ўжо здаўна прадбачыла тыя няшчасьці, да якіх вядзе масонская дзейнасьць і дзеля гэтага асудзіла масонства ўжо ў 1738 г. Потым гэтае асуджаньне шмат разоў паўтаралася. Найвастрэй асудзіў масонства Сьвяцейшы Айцец Леў XIII ў 1884 г. у энцыкліцы «Humanum Genus». Гэтае асуджаньне ўвайшло ў Кодэкс Кананічнага Права, як 684 канон, які забараняе прыналежнасьць да тайных згуртаваньняў. Але ў сапраўднасьці дык ужо сам Хрыстос асудзіў такія тайныя згуртаваньні, калі навучаў: «Кожны, хто робіць дрэннае, ненавідзіць сьвятла і ня йдзе да сьвятла, каб ня выявіліся ягоныя дрэнныя ўчынкі» (Ів. III, 20).

Усе забароны супраць масонства і самая справа масонства часта ўспаміналася на пачатку гэтага году ў зьвязку з дэкрэтам Кангрэгацыі Сьв. Ураду з дня 11-га студзеня, якім забаронена вернікам належаць да Ротары Клюбу ў тых краінах, дзе гэтая арганізацыя дзейнічае пад моцным масонскім уплывам.

Падаючы коратка ўсе вышэйпаданыя весткі і забароны, уканцы неабходна дадаць, што кожнаму верніку варта ведаць гэтыя забароны і кары, якія звычайна зьвязаны з забаронамі, але пуцяводным матывам у жыцьці і дзейнасьці кожнага павінен быць ня страх перад карамі, але любоў да Бога, якая кажа нам з радасьцю захоўваць усе прыпісы Каталіцкае Царквы і тым самым захоўвае ад блуджаньня па бездарожжах. **А. І.**

# Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг.

Прыступаючы да апісаньня рэлігійных адносінаў на Беларусі ў другой палавіне XVIII стагодзьдзя, цяжка знайсьці лепшы тытул ад вышэйпаданага. Магчыма хто з тых, што ня мелі нагоды зацікавіцца рэлігійнымі адносінамі на Беларусі, спытае: што мае супольнага Кіеўская Мітраполія з Беларусьсю? Дзе Рым, дзе Крым, а дзе іванава хата?

Гаворачы аб Кіеўскай Мітраполіі, трэба ведаць, што гэта вялізарны абшар з беларускім і украінскім насельніцтвам, які тварыў адміністрацыйна-царкоўную адзінку перш у межах Вялікага Літоўскага Княства, а потым у Рэчыпаспалітай. Ад канца XVI в. гэтая мітраполія была залежнаю ад Рымскага Апостальскага Пасаду. У XVIII в. яна перажывала вельмі цяжкі час. І гэтым якраз пэрыядам мы хочам тут заняцца.

Далёкія ад нас усякія палемічныя хітрыкі. Нам проста хочацца падзяліцца з суродзічамі тым, што мы на працягу некалькі гадоў змаглі знайсьці ў архівах і музэях Заходняе Эўропы аб нашай бацькаўшчыне, а што дагэтуль знаходзілася там у фоліях, прыкрытых пылам, нікім з вучоных ня выкарыстаных.

---

Перад 1772 г. у Кіеўскую Мітраполію ўвайходзіла апрача мітрапалічай архіепархіі яшчэ восем епархіяў або біскупстваў, а іменна: Уладзімерская, Луцкая, Львоўская, Пярэмышльская, Холмская, Пінская, Полацкая і Смаленская.

Амаль побач з кожнай з гэтых епархіяў усходняга абраду былі каталіцкія епархіі лацінскага абраду.

У 1772 г быў радыкална парушаны ўвесь строй Кіеўскае Мітраполіі, а тым самым і ўсяго жыцьця Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду на Беларусі і Украіне.

Пасьля першага разбору Рэчыпаспалітае ў межах гэтае апошняе асталіся епархіі: Уладзімерская, Пінская і часьці: Холмскае, Луцкае і Полацкае. Да Расеі адышлі: епархія Смаленская і бо́льшая частка архіепархіі Полацкае; да Аўстрыі — епархіі: Львоўская і Пярэмышльская з часткамі Луцкае і Холмскае.

Пры гэткім стане рэчаў кіеўскім мітрапалітам трудна было ўтрымаць адзінства мітраполіі. Кожны з урадаў тых дзяржаваў, дзе знайходзіліся вернікі з Кіеўскае Мітраполіі, імкнуўся мець уплыў на абсаду біскупстваў, на сьвятароў і вернікаў незалежна ад мітрапаліта.

Тут будзе зусім на мейсцы падаць крыху дакладнейшае апісаньне кожнае з уніяцкіх епархіяў, бяручы пад увагу розныя дагэтуль друкаваныя працы і выкарыстоўваючы жаролы архіваў.

## Мітрапалітальная Епархія Кіеўскае Мітраполіі.

У сілу дагавору з 13 верасьня 1772 г. Мітрапалітальная Кіеўская архіепархія знайходзілася да часу другога падзелу Рэчыпаспалітае поўнасьцю у межах гэтае апошняе.

З вуснаў а. Хведара Растоцкага, правінцыяла літоўскае правінцыі аа. Базыльянаў з нагоды кананічнага допыут праведзенага ў 1780 г. аб Язоне Юнашы Смагажэўскім, пазьнейшым кіеўскім мітрапаліце, даведваемся аб самай мітраполії наступнае: «Мітрапалічая епархія ёсьць даволі абшырнай; яна прасьцягаецца на абшарах Польшчы і Літвы. У Польшчы яна абымае ваяводзтвы: Кіеўскае і Брацлаўскае; у Літве — ваяводзтвы: Віленскае, Троцкае, Менскае і Навагрдзкае і некаторыя цэрквы ў княстве Жмудзкім належаць да ўспомненае епархіі...» (1). Падобна цьвердзіць Ян Яхімовіч апостальскі протонатары і менскі каніст. Ён няслушна толькі ў сваім сьведчаньні выпускае ваяводзтва Троцкае, праз каторае аднак бяз сумніву прасьцягалася мітрапалітальная епархія. На гэта ёсьць дакумантальныя доказы (2).

Заўважым, што так а. Растоцкі, як і сучасны яму Яхімовіч, ужываюць назову «Польшчы» не ў значэньні этнаграфічным, а палітычным, бо-ж ясна, што ваяводзтвы Кіеўскае і Брацлаўскае былі заселеныя украінцамі. Што да назову «Літва», дык ён у тагачаснай тэрміналёгіі ёсьць аднязначны з сёньняшнім назовам Беларусь і розным ад таго, што сёньня разумеюць пад гэтым назовам летувісы, якія ў той час называліся жмудзінамі і мелі сваё Жмудзкае княства, як гэта выразна відаць з самога дакуманту, дзе той самы а. Растоцкі адрозьнівае Жмудзь (палаціне Samogitia) ад Літвы і сьцьвярджае, што нават на Жмудзі былі парахвіі уніятаў.

На пасад кіеўскіх каталіцкіх мітрапалітаў быў вызначаны яшчэ ў 1458 г. папаю Піям II,—Кіеў (3), але ўжо ў часох аднаўленьня Уніі ў Берасьці ў XVI стаг. гэты пасад знайходзіўся ў розных мейсцах (4), пераважна аднак у Вільні, у Навагрдку, а так-жа і ў Менску; ад паловы XVIII стаг. найчасцей у Радомышлі на Украіне (5). У апошніх дзесятках XVIII стаг. з юрыдычнага боку аседкам мітрапаліта лічацца Кіеў і Вільня, фактычна аднак ён быў спалучаны з пасадам таго біскупа, які выбіраўся на мітрапаліта (6).

Нясталасьць пасаду мітрапалітаў тлумачыцца тым фактам, што пасьля дагавору ў Андрусаве з 1667 г. Кіеў адышоў да Расеі. Ад таго часу ніхто з мітрапалітаў у Кіеве ня жыў і ня было там каталікоў усходняга абраду, аднак тытулы: «Кіеўскі Мітрапаліт» і «Кіеўская Мітраполія» былі затрыманыя да канца існаваньня Уніі на Беларусі.

Частая зьмена мітрапалічага пасаду спрычыніла шмат лішніх клопатаў для ўсяе Уніяцкае Царквы. Асабліва трудна было ўпарадкаваць архівы і належна адміністраваць уласнасьцю Таму мы спатыкаемся няраз з дамаганьнем уніяцкіх біскупаў, з рэляцыямі папскіх нунцыяў аб спалучэньні раз на заўсёды мітрапалічага пасаду з адным сталым горадам, як аседкам Кіеўскага Мітраапліта. Аднак ня лёгка было наважыцца ў тым часе, які горад выбраць для такога пасаду. Адны жадалі мець яго на Украіне і ўжо нават разважалася справа ў Рыме аб замацаваньні мітрапалічага пасаду ў Львове; іншыя, асабліва сярод беларускага духавенства, не асьмельваліся адступіць ад Вільні, Навагрдка і Менска, — дзе для мітрапалічага пасаду была гістарычная традыцыя (7).

Што датычыць дэканатаў (благачыніяў), парахвіяў і ліку вернікаў у Кіеўскай Мітраполіі, дык няшмат аб гэтым можна даведацца.

Якуб Суша ў сваім творы «Аб працах вуніятаў» (8), кажа, што ў той частцы мірапоіі, якая належала да В. Княства Літоўскага знайходзілася 600 парахаў. Каяловіч, настаўлены варожа да уніятаў, выкарыстоўваючы дакуманты з архіву Уніяцкіх Мітрапалітаў, перавезеных пасьля скасаваньня Уніі ў Маскву, дае іншыя статыстычныя даныя. Трудна аднак азначыць, ці даныя Каяловіча адносяцца да ўсяе Каталіцкае Царквы ўсх. абраду, ці толькі да мітрапалітальнае епархії.

Паводля яго ў Заходняй Украіне каля 1730 г. налічвалася 150 парахвіяў, а ў 1747 г. іх лік узрос да 800, а ў 1764 г. іх было ўжо каля 2000 (9). Вялікая розьніца паміж паданымі лікамі на працягу даволі кароткага часу тлумачыцца: бурлівымі і неспакойнымі часамі, жывасьцю, або вялясьцю ў некаторых пэрыядах місыйнае уніяцкае дзейнасьці, а так-жа недакладнасьцю самое статыстыкі.

З лісту ўвязьненых уніяцкіх сьвятароў у Бэрдычаве да папскага нунцыя Гарампі з дня 1 сакавіка 1773 г. даведваемся, што ў тым часе мітрапалітальная епархія налічвала 32 дэканаты, з

---

1) Ватыканскі Архіў, Processus Consist., t. 181, f. 267 v.

2) Ibid., Processus Consist., t. 181, f. 269 v.; f. 256 v.; t. 186, ff. 35, 56 v.

3) I. Pelesz, Geschichte der Uuion der ruthenischen Kirche mit Rom, Wien 1878, t. I, S. 377.

4) I. Pelesz, цытав. твор, T. II, S. 60.

5) М. Кояловичъ, Исторія возсоединенія Западнорусскихъ Уніятовъ, С. Петербургъ, 1873, с. 6.

6) Ватыканскі Архіў, Processus Consist., t. 181, ff. 251 v, 256v-257, 266v-267, 269; t. 186, f. 52.

7) M. Harasewicz, Annales Ecclesiae Ruthenae, Leopoli 1862, S. 356. Archiu Prop. F., Acta, t. 133, ff., 334-340.

8) J. Susza, De laboribus Unitorum, 1664. a.

9) М. Кояловичъ, Исторія возсоединенія Западнорусскихъ Уніятовъ, С. Петербургъ, 1873, с. 6.

каторых кожны меў па 60, а нават і больш парахвіяў (10). Закругляючы тады лік, мы мелі-б у цэлай епархіі 1.920 парахвіяў. Гэта больш менш згаджалася-б з тым, што пісаў у сваім лісьце дня 18 траўня 1781 г. мітрапаліт Смагажэўскі. Паводля яго мітрапалітальная епархія мае ў тры разы больш цэркваў, як Полацкая епархія, каторая тады налічвала 600 парахвіяў (11).

Узяўшы пад увагу ўсё вышэй сказанае, можна зрабіць наступны выснавак: Мітрапалітальная епархія Кіеўскае Каталіцкае Мітраполіі ўсх. абраду пры канцы XVIII стаг. мела на абшарах Беларусі і Украіны каля 1.800 парахвіяў, аб'еднаных у больш, чым 30 дэканатаў Няпоўны сьпіс паіменна пералічаных дэканатаў (усяго 20) праўдападобна з 1776 г. знайходзіцца ў Ватыканскім Архіве (12).

На абшары гэтай-жа мітраполіі разам з каталікамі ўсх. абраду пражывалі каталікі лацінскага абраду і нешматлікія ў той час праваслаўныя. Гэтых апошніх выкарыстоўвала Расея, як палітычную ірыдэнту супраць Рэчыпаспалітае, умела ўсё падводзячы пад сьцяг рэлігійных патрэбаў і інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва.

Між праваслаўнымі і уніятамі ў XVIII стаг. здараліся часам непаразуменьні, найчасьцей выкліканыя штучна і далёка не так вострыя, як у XVIII стаг. Нанова яны разгарэліся пасьля 1772 г., калі вялікая частка уніятаў была прылучана да Расеі і калі распачаўся працэс іх «адварочваньня».

Важнаю справаю, — на якую ў той час аж залішне зьвярталася ўвагу, быў матэрыяльны стан епархіяў. Тагачасныя архіўныя дакуманты дакладна падаюць лікавыя справаздачы даходаў. Напрыклад даходы мітрапалічага пасаду раўняліся суме каля 4.000 флёрэнаў на год г. ян. каля 4.000 ангельскіх фунтаў. У даходы ўлічаўся падатак ад сьвецкіх сьвятароў, называны «катэдратікум», даходы з розных земляў і маемасьцяў прынадлежных да мітрапалітальнае епархіі (13).

**а. Ч. Сіповіч.**

(Далей будзе)

10) M. Harasiewicz, Annales Ecclesiae Ruthenae, Leopoli 1862, S. 506.; I. Pelesz, Geschichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom, Wien 1878, T. II, S. 537.

11) Ватыканскі Архіў, Nunz. di Vars., t. 145, f. 159 v.

12) Ватыканскі Архіў, Nunz. di Vars., t. 145, f. 53.

13) Ватыканскі Архіў, Processus Consist., t. 181 ff. 256 v-257, 267, 269 v; t. 186, ff. 53, 56 v.

# Ці ёсьць катакомбнае рэлігійнае жыцьцё на Беларусі?

Адказам гэтае пытаньне хай будаць ніжэйпаданыя абразкі з успамінаў аднаго беларускага рэлігійнага дзеяча.

---

Адведвачы Рым, пры першай-жа нагодзе я пайшоў аглядаць катакомбы. Манах з маленькаю сьвечкаю ў руках абводзіў нас па доўгіх вузенькіх падземных карыдорах, абапал якіх былі парадчынятыя грабы першых хрысьціян. Трапляліся часам і пазачынятыя з напісамі. Якое магутнае ўражэньне робяць тэтыя грабы, прасякнутыя крывёю хрысьціянскіх мучанікаў?! Даўно стлелі іхныя целы, нават касьцякі часткова парасклада-ліся, але зямля напоеная іхняю сьвятою крывёю быццам уздымае магутны кліч да сумленьня кожнага адведвальніка: «Уздымі сваё сэрца, маладушны! Ня бойся аддаць сваё жыцьцё за Хрыста, каб атрымаць перамогу!!!»

І пад гэтым уражэньнем сталі мне ў вачох, як жывыя, абразы з роднага краю. У нас на Беларусі няма катакомбаў з доўгімі карыдорамі глыбока ў зямлі, але тварацца іншыя і нават мы самі аб іх амаль нічога ня ведаем, бо аб іх да гэтага часу чамусьці ніхто і словам не заікнуўся. Можа некалі Бог дазволіць даведацца аб іх больш, адчыніць іх тайніцы, каб умацаваць нашу веру, але пад уражэньнем рымскіх катакомбаў хацелася-б успомніць некалькі здарэньняў, аб якіх даведаўся ад самых удзельнікаў катакомбнае рэлігійнае працы на Беларусі.

Калі бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь, перад беларускім каталіцкім духавенствам паўстаў цэлы рад новых пытаньняў у справе арганізацыі душпастырскае працы. Для іх вырашэньня арганізуюцца тайныя сходы. Ня вельмі далёка ад былае граніцы ў адной звычайнай вёсцы пад вечар спыніўся чырвонаармейскі цяжарны самаход і адтуль выйшаў нейкі барадаты дзядзька ды хутка накіраваўся да мяйсцовае царквы, а самаход зьнік за паваротам. Праз якое паўгадзіны да гэтае-ж сьвятыні пад'ехаў на самакаце нейкі іншы дзядзька. Як пачало сутанець пастукаў у дзьверы сьвятарскага дому яшчэ якісь падарожны і паведаміў прысутных, што а. Х. цяжка захварэў, дык няма чаго яго чакаць.

Па вячэры ў хаце не асталося больш нікога, акрамя прыбыўшых і гаспадара. Пасьля кароткае малітвы «маленькі саборчык» распачаў сваё нарады. Ужо даўно ў вёсцы ўсе спалі, калі зноў кароткая малітва падзякі азначала канец нарадаў.

А назаўтра зноў спынілася недалёка ад вёскі аўта, каб забраць і адвезьці назад учарашняга пасажыра. А калі і як разьехаліся іншыя падарожныя, амаль ніхто з вясковых ня бачыў.

Некалькі месяцаў пасьля гэтага здарэньня распачалася чыстка школьных кадраў і тады было загадана нованазначаным бальшавіцкім інспэктарам і кіраўніком прфсаюзаў пільна са-

чыць, каб выявіць і павыкідаць усіх тых, хто быў пад уплывам «служыцеляў культу».

---

У 1940 г. даўнейшая граніца, якая дзяліла Беларусь, яшчэ па ранейшаму сьцераглася чырвонаармейцамі, але час-ад-часу здараліся магчымасьці прайсьці праз яе. І вось карыстаючы з гэткае магчымасьці, калі аднойчы ехала група калгасьнікаў на некалькі дзён з Усходняе Беларусі ў Заходнюю на нейкую сьпешную працу, падчас таго, як цягнік затрымаўся на былым прыгранічнай станцыі, з вагону выйшаў на пэрон якісь калгасьнік у лапцях і даволі прынішчанай вопратцы ды накіраваўся хуткім крокам да сьвятара, які прыпадкам прайходзіў тудэма. Затрымаўшы сьвятара, глянуў уважна на сутану, на аблічча і паволі вымавіў:

— **Laudetur Jesus Christus!**

Гром з яснага неба ня зьдзівіў-бы так сьвятара, як гэтыя сьвятыя словы прывітаньня з вуснаў калгасьніка.

— **In saecula saeculorum...** — адказаў нерашуча духоўны у сутане.

Ня дзівуйцеся, — супакойваў яго калгасьнік, — я так-жа сьвятар, працую далёка адгэтуль у калгасе, схаваўшыся вось у гэтыя лахмоцьці і лапці, нібы ў катакомбы, а цяпер прашу цябе, браце, выспавядай мяне.

Яны прайшліся каля будынку станцыі і хутка разыйшліся, кожны ў сваю дарогу, каб ня прыцягваць да сябе зыркага вока энкавэдыстаў.

---

І так невялікі лік беларускага каталіцкага духавенства, пасьля бальшавіцкага і назістоўскага панаваньня на Беларусі зусім зьмалеў. Калі-ж у 1944 г. фронт пасоўваўся на Захад, дык абставіны змушалі разьвітвацца з сабою некаторых старых знаёмых. Далёка на Ўсходзе Беларусі ў адным з гарадоў была такая сцэна:

— Дык, вы, ойча, астаецеся напэўна?

— Так. Тут ужо маё мейсца, тут мае і людзі, ды на старасьць і рухацца з бацькаўшчыны ня хочацца.

— Але тут трэба быць гатоваму на ўсякія эвэнтуальнасьці.

— О, як-бы Бог мне дазволіў умерці за Яго сьвятую справу і за свой народ, дык якога-ж бы я хацеў большага шчасьця!? Але пакуль гэта станецца, памятайце супольна маліцца, каб вымаліць, хуткі паварот вас усіх да вялікае працы на роднай удзірванелай ніве.

**Сьведка.**

# МАЛІТВА

(Даслана з-за зялезнае заслоны)

О, Божа! Народ свой пакутны, убогі,
Як вернае сэрца ў адданых грудзёх,
кладу Табе сёньня пад Божыя ногі,
каб Ты не забыўся, каб Ты дапамог.

Каб сьлёзы і раны, што землю пакрылі,
супроць чалавека бязьлітасны чын,
і зьдзек бязупынны і безьліч магілаў,
каб Ты не забыўся, каб Ты падлічыў.

Тугу ад гнязда сваяго адарваных,
дзіцячую долю і мацеры плач,
бяссонныя ночы закутых ў кайданы,
галодных мучэньні, о, Божа, убач!

Узглянь на чужымі стаптаныя нівы,
прыйдзі паглядзець да разьбітых сьвятынь.
О, будзь міласэрны, о, будзь справядлівы,
і слуг Тваіх верных Ты больш не пакінь.

Ты быў чалавекам і Ты-ж мееў маці,
І сам ад людзей Ты цярпеў на крыжы, —
ня дай больш нявіннай крыві праліваці,
у адчаі народу майму паможы.

З крыві і нядолі ўздымаў Ты народы
і мудрасьцяй Божай іх волю сьцярог, —
і нам пашлі волю, і нам дай свабоду,
да нас прыйдзі ў госьці на скромны парог.

За мукі народу, за сьлёзы паэтаў,
за сьмерць нашых юных братоў на крыжы,
за нашы малітвы, о Войча сусьвету,
дай волі народнай на нівах ажыць.

Няхай абагрэе наш край небагаты,
пацешыць ніколі ня знаючых ласк,
асьвежыць хай сумныя, шэрыя хаты
пазнаньнем, што Ты не забыўся аб нас.

Як чыстае сэрца пад Божыя ногі,
кладу Табе сёньня радзімы палі,
тых гоняў палотны, шляхі і дарогі,
і межаў цьвяцістых сьцялю паясы.

І потам крывавым згаранае поле,
забытыя хаты, курганы, бары,
і сэрцы у путах, і іхнюю долю
і з нашай крывёю Тваё аўтары.

О, Ты найласкаўшы, Сын Бога Жывога,
што сьмерць адкупленьнем сваім перамог,
кладу Табе край свой пад Божыя ногі,
каб Ты не забыўся, каб Ты дапамог.

# Прычынкі да жыцьцяпісу д-ра Фр. Скарыны

425-ыя ўгодкі друкарства на Беларусі, якія абходзіліся летась, ня мінулі бясьсьледна. Яны азначыліся выяўленьнем некаторых фактаў з жыцьця Скарыны, якія да гэтага часу нідзе не ўспаміналіся ў ягоных біяграфіях.

І так, толькі летась некаторыя беларускія газэты падалі вельмі вартасную навіну, што ў Падуанскім Унівэрсытэце ў старыннай аўлі між партрэтамі-фрэскамі слаўных людзей, якія выйшлі з Падуанскага Унівэрсытэту, як: М. Копэрнік, Т. Тассо, Г. Галілей і інш., ёсьць так-жа і партрэт Скарыны. Знайходзіцца ён у верхнім радзе між польскім пісьменьнікам Я. Кахано́ўскім (1554) і першым расейскім дохтарам мэдыцыны П. В. Постніковым (1654). Тут падаём гэты партрэт; у верхняй ягонай часьці відзён лацінскі напіс:

**FRANCISCUS SKORYNA DE POLOCZKO, RUTHENO.**
**1512.**

Ёсьць так-жа весткі, што ў архівах Парыскае Сорбоны знайходзіцца, нідзе неапублікаваная дагэтуль прамова д-ра Фр. Скарыны ў лацінскай мове, якую ён меў сказаць да студэнтаў Сорбоны, калі з Падуы прыхаў у Парыж і тут быў выбраны на старшыню аднаго студэнцкага гуртка, які займаўся справаю друкарства.

З Парыжу Скарына паехаў у Прагу, а адтуль на Беларусь.

**М. М.**



**Партрэт д-ра Фр. Скарыны з ягонае Біблії.**



**Партрэт д-ра Фр. Скарыны ў аўлі Падуанскага Унівэрсытэту паводля фатаграфіі зробленай а. М. Маскалікам.**

# Пад птушыны сьпеў

Касавіца была ў поўным разгары. Сенажаць штодня траціла свой квітнеючы ўбор і замянялася ў аднавобразную пакошу, усланую быццам трупамі, доўгімі пракосамі. Але і яны доўга не ляжалі; грабцы хутка разьбівалі іх, каб тонкім пластам закрыць сьвежую пакошу. З набліжэньнем вечару пакоша ўкрывалася копамі сьвежага сена, між якімі, мауляў тыя мурашкі, ўвіхаліся грабцы, а іхныя звонкія галасы і красачная вопратка часткава замянялі красу скошаных кветак.

На тле скошанае сенажаці зьвяртала на сябе ўвагу нечая няскошаная палоска пры самым гасьцінцы. Гэта Язэп Канцавы ня ўсьпеў выйсьці на сенаваньне разам з усею вёскаю. Ён агулам уважаўся няўлюдкам. Праўда, гаспадарка яго была невялічкая і каб не галадаць, ён часта хадзіў на заработкі ў недалёкае мястэчка. Там часам знаходзіў добра платную працу, а часам наадварот, бачыў толькі няміласэрны зьдзек над сабою і патроху траціў веру. Толькі ўчора ён вярнуўся з заработкаў і сёньня ўжо быў на сенажаці ды стараўся дагнаць сваю адсталасьць.

Ужо набліжаўся вечар; за Язэпам ляжалі неразьбітыя доўгія пракосы, але і перад ім прасьцягалася даволі доўгая смуга мурожнае травы. Гэта-ж была ягоная адзіная і найлепшая сенажаць. На язэпавым забрунелы абліччы відаць былі сьляды цьвёрдага жыцьця. Збоку гледзячы на яго, здавалася, што ён касіў, не зьвяртаючы ўвагі на акружаючы яго сьвет. У ягоных запрацаваных моцных руках зграбна хадзіла каса і з посьвістам укладала ў роўныя рады сочную траву.

Грабцы, якія ўжо ўсьпелі скапіць сваё сена, зьбіраліся невялікімі гурткамі і паволі йшлі дамоў, а Язэп касіў далей.

— Язэп, хадзем разам! — клікаў нечы жаночы голас з грамады.

— Зараз, зараз, вось толькі пракос кончу, — адказваў спакойна касец, мяньціў касу і зноў браўся за сваю работу.

Ён набліжаўся да тэлеграфнага слупа. Хоць вечар быў зусім ціхі, але слуп моцна гадзеў сваю тугнявую песьню: гу-у-у, гу-у-у, гу-у-у. Гэты гул мяшаўся з посьвістам касы ў дзіўны дуэт. Раптам грабцы зацягнулі летнюю песьню. Чароўная мэлёдыя «лета» пералівалася і плыла над сенажацьцю і так сугучна зьлівалася з гулам тэлеграфнага слупа і посьвістам касы, што атрымоўваўся прынагадны хор нявымоўнае красы. Язэп на мамэнт аж спыніўся, каб лепш прыслухацца да сьпеву, але як толькі заціх посьвіст касы, ён пачуў, што нечага ня стала ў тым цудоўным хоры. Дык забыўшыся аб цэладзенным зьняможаньні, з новаю сілаю налёг на касу, каб годна выканаць сваю частку ў тым хоры. Пад гукі гэтае чароўнае мэлёдыі ён адчуў нейкую новую сілу ў сабе і такую радасьць у душы, якое яшчэ не адчуваў ніколі ў сваім жыцьці. У гэткім настроі ён і не заўважыў, як хутка адкасіўся ад тэлеграфнага слупа.

Калі песьня сьціхла недзе за гарою і сонца схавалася, Язэп ускінуў касу на плечы і паволі пайшоў дамоў, але ў ягоных вушох увесь час гучэла чароўная мэлёдыя.

— Як гэта хораша, — паўтараў ён сам сабе няведама каторы раз і не адчуваў таго, што ён і сам пахарашэў душою.

Пакуль Язэп павячэраў, начлежнікі ўжо ўсе паехалі і ня было ў каго спытацца, куды яны сёньня паехалі. Каб дарма ня траціць часу на пошукі, начлежнікаў, Язэп спыніў свайго каня на прысадах, спутаў яго, а сам лёг пад лазовым кустом ля самага гасьцінца.

Не прайшло і некалькі хвілін, як у паблізкім кусьце зашчабятала ціхім голаса нейкая, відаць, дробная птушка. Язэп і сам ня ведаў, што гэта за птушка, але ў начной цішы, яе ціхі і мілагучны сьпеў быў так прыгожы, што ён заслухаўся.

— Пераляці бліжэй, ты дробная шчабятуха! — думаў ён пра сябе. І быццам на гэтую просьбу, яна сапраўды пераляцела на ягоны куст, села над самаю галавою Язэпа і пачала сьпяваць. Язэп не варушыў і пальцам, каб не спалохаць так мілае маленькае сьпявачкі. Яе сьпеў быў сапраўднаю насалодаю для яго. Калі па нейкім часе птушка пераляцела на іншы куст, шкода яму было, што ня стала мілае сяброўкі і ён пачаў дакараць:

— Хіба-ж я такі дрэнны, што ты ўцякла ад мяне? — Але потым прышла яму іншая думка:

— Там пэўна ёсьць яе гняздо, дык вось туды і ляціць, каб сьпяваць сваёй абранай і ўпрыемніць ей доўгія гадзіны веседжваньня сваіх будучых птушанят. Дык нельга на яе крыўдаваць за тое, што паляцела ад мяне. — Язэп сам не заўважыў, што ён здаецца першы раз у жыцьці не стараўся шукаць прычыны да нараканьня, але стараўся апраўдаць няведамую істоту.

Змучаны цэладзеннаю працаю, ён хутка заснуў і ня чуў больш сьпеву. Калі прачнуўся, дык неба на ўсходзе толькі пачало займацца на зару. Кругом было ціха. Конь непадалёк выгрызаў асаку з прыдарожнага рову. Раптам залунала песьня першых жаваранкаў. Колькі раз Язэп езьдзіў на начлег, ён заўсёды чуў гэты сьпеў і прывык да яго, як да нечага будзённага і самазразумелага, але цяпер на адзіноце ды яшчэ пасьля колькітыднёвага местачковага жыцьця неспадзевана зьявілася ў яго дзіўная думка:

— І ёсьць-жа ім ахвота пяяць так рана з галодным жыватом, і каму яны пяюць?

Не знайходзячы адразу адказу на гэтае пы-

таньне, ён устаў з-пад куста і пачуў, што ў далёкім хмызьняку трылілі салаўі і высьвістваў дрозд.

— Ранішні канцэрт дый годзі, — ўпаўголаса азваўся сам да сябе Язэп. Будучы ў гурце начлежнікаў такія думкі ніколі ня прыходзілі яму ў галаву, а цяпер на адзіноце быццам першы раз у жыцьці Язэп слухаў прыгожы раньні сьпей птушак і мімаволі вырынулі ў ягонай памяці, як адказ на пытаньне, недзе даўно чутыя словы: «Нават і малыя птушкі пачынаюць свой дзень малітваю, выслаўляючы Стварыцеля найпрыгажэйшым сьпевам».

— I сапраўды, каму яны сьпяваюць так рана? I не каля гнязда, але высока ў хмарах і ў далёкіх кустох? Мусіць праўду кажуць людзі — разважаў Язэп і падышоў да каня, распутаў яго і папляскваючы рукою па шыі, казаў:

— А мы, сівы, што будзем пяяць, ці не? —

Конь голасна заржаў. Чаго, чаго, але гэтага Язэп ніколі не спадзяваўся.

— Што-б гэта магло значыць?..

Ён адразу спаважнеў і глыбока задумаўся, потым паволі налажыў каню аброць і нічога ня кажучы, накіраваўся на дарогу. Жаваранкі сьціхлі. Неба паясьнела.

Ён паставіў каня ў хлеў, а сам ўзяўшы касу пасьпяшыў на сенажаць. Калі ён узыходзіў з касавухі на гасьцінец бліснулі першыя праменьні ўзыходзячага сонца і раса на прыдарожных кустох заіскрылася цудоўнымі вясёлкавымі колерамі. Звычайныя дробныя кропелькі вады ў сьвятле сонечных праменьняў быццам замяніліся ў цудоўныя дыяманты. Жаваранкі зноў высока ў хмарах затрылілі свае прыгожыя гымны Сонца якраз узыходзіла з-за касьцельнае вежы, якая толькі сваім вяршком выглядала з-за кругазору, дык над сонцам уздымаўся крыж. Язэпу здалося быццам сонечны прамень з нейкім асаблівым цяплом, пранікнуў аж у ягоную душу, ён спыніўся на мамэнт, глянуў на далёкі крыж, зьняў шапку, набажна перахрысьціўся і пачаў успамінаць словы даўно не адмаўлянае малітвы і адчуў, што пахарашэў душою быццам тыя каплі расы ў сонечных праменьнях. А жаваранкі высока ў хмарах пяялі бястурботна далей свае гымны, не зважаючы на тое, ці слухае іх хто, ці не.

**Анатоль Жменя.**

### НА ВЯЛІКДЗЕНЬ.

«Хрыстос ўваскрос!» — званы гудуць;
«Хрыстос ўваскрос!» — усе пяюць,
Зоркі глядзяць ясьней з нябёс, —
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос!

Паець вакол птушыны хор;
Вясеньні час прышоў на двор, —
Ажыўчы дождж з сабой прынёс.
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос!

О, родны край, прышла вясна;
Устань, прачнісь ад зморы-сна,
Абмый свой твар, — спаткай свой лёс!..
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос!

**Э. Б.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### АПОСТАЛЬСКІ ПАСАД І СПРАВА МІРУ.

Старшыня камуністычнае арганізацыі «Прыхільнікаў Міру» ведамы фізык Жоліё-Кюры зьвярнуўся да Сьвяцейшага Айца Пія XII з заклікам падтрымаць іхныя «стараньні захаваць мір». У імені Сьвяцейшага Айца на гэты заклік адказаў Я. Экс. Монтіні даўжэйшым лістом апублікаваным у Ватыканскай газэце «Осэрваторэ Романо», дзе з націскам гаворыцца, што Апостальскі Пасад ніколі не жадаў вайны і ня будзе жадаць яе нават і тады, калі-б яна некаму здавалася здольнай зьнішчыць камунізм, бо Апостальскі Пасад глыбока пераконаны, што вайна здольна прынесьці толькі шмат бяды і нядолі, якія стануцца ўгнаеньнем і спрыяючаю атмасфэраю для разросту камунізму. Апостальскі Пасад будзе заўсёды старацца служыць справе міру, але сапраўднага міру, які можа стацца толькі ў выніку ажыцьцяўленьня ў практычным жыцьці навукі Хрыста.

Гэтым адказам Апостальскі Пасад яшчэ раз заявіў на ўвесь сьвет, што мір не асягнецца ніколі пустою і хлусьліваю прапагандаю, але толькі дзеяньнем у хрысьціянскім духу.

### СЬМЕРЦЬ ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА.

Калішні сакратар папаў Пія X і Бэнэдыкта XV а. Джэролямо Біянкі памёр у веку 81 г. дня 23-III. Апошнія гады свайго жыцьця ён жыў у манастыры строгім аскетычным жыцьцём перабываючы найчасьцей у адзіноце. Спаў ён на звычайных дошках і спажываў толькі хлеб і ваду.

### ПЛЕНАРНЫ САБОР ФРАНЦУСКАГА ЯПІСКАПАТУ.

Сёлета 3 і 4 красавіка першы раз пасьля 1906 г. мелі францускія каталіцкія япіскапы свой пленарны Сабор прысьвечаны: душпастырству сьв.

Тайнаў, рэарганізацыі сакратарыяту Каталіцкае Акцыі і справе вольнага школьніцтва.

### НАВЕРНЕНЬНЕ.

Мадзярскі новэліст і драматург жыдоўскага паходжаньня Фэрэнц Мольнар ведамы быў, як бязбожнік. Але нядаўна ён прамаўляў у радыёстанцыі «Голас Амэрыкі» (ён сам жыве ў Амэрыцы ад 1940 г.) і ў сваёй прамове між іншым сказаў: «Маю ўжо больш, як 70 гадоў з іх 60 гадоў я жыў у бязьверстве. Цяпер пачынаю верыць у бесьсьмяротнасьць жыцьця, якое дае вечны мір душы».

### НОВЫ ЭКЗАРХАТ ДЛЯ УКРАІНЦАЎ У КАНАДЗЕ.

У зьвязку з масаваю эміграцыяю украінцаў у Канаду Апостальскі Пасад падзяліў у 1948 г. існуючы там ад 1912 г. япіскапскі ардынарыят для украінцаў грэка-каталікоў на тры Экзархаты для сярэдняе, усходняе і заходняе Канады, высьвячваючы адначасна трох новых украінскіх япіскапаў.

Новы наплыў эмігрантаў выклікаў неабходнасьць пабольшыць лік япіскапаў дзеля гэтага сёлета ўтворана чацьвёрты экзархат дзелячы Экзархат цэнтральнае Канады на два. Новым экзархам назначаны Я. Э. Роборэцькі дагэтуляшні суфраган Я. Э. Ладыкі, а на суфрагана назначана а. Максіма Гэрматюка ЧСВВ.

### АЦАНІЛІ АХВЯРНУЮ ПРАЦУ.

У Францыі між работнікамі працуе невялікая колькасьць сьвятароў-работнікаў. Нядаўна ў Бордо адзін з гэткіх сьвятароў а. Мішэль Фарво загінуў ад няшчаснага выпадку падчас працы ў порце. Хоць нядоўга працаваў між работнікамі дваццацісямі гадовы а. Мішэль, але яго работнікі паважалі і прынялі масавы ўдзел у пахаваньні, выказваючы гэтым эразуменьне ягонае ахвярнае працы.

### УЗМАЦНЕНЬНЕ БЯЗБОЖНІЦКАЕ ПРАПАГАНДЫ

Апошнім часам ува ўсім Савецкім Саюзе і падсавецкіх краінах заўважваецца паважнае ўзмацненьне бязбожніцкае прапаганжы з асаблівым супрацькаталіцкім кірункам. У Ленінградзкім музэі гісторыі рэлігіі адчынена спэцыяльныя адзьдзелы, як: «Гісторыя папства і інквізіцыі» і «Ватыкан на службе імпэрыялізму».

У падсавецкай часьці Нямеччыны «Культурная Ліга для аднаўленьня Нямеччыны» зарганізавала падобныя-ж супрацькаталіцкія выступкі ў аўтабусах і перавозіць з горада ў горад. Тое самае дзеецца ў Румыніі.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### АНГЛІЯ.

#### Сакавіковыя ўрачыстасьці.

Ува ўсіх беларускіх цэнтрах у В. Брытаніі дзень 25-га сакавіка быў азначаны, як дзень беларускага нацыянальнага сьвята.

**У Лёндане** зрана ў доме а.а. Марыянаў была адпраўлена Служба Божая для каталікоў, а для праваслаўных адбылося багаслужэньне ў украінскай царкве. Папалудні таго-ж дня ў Беларускім Доме адбылася акадэмія, на якой пасьля адчытаньня надасланых прывітаньняў, а. др. Ч. Сіповіч прачытаў даклад на тэму: «Беларусь учора і сяньня». На мастацкую частку акадэміі злажылiся дэкламацыі і патрыятычныя ды народныя песьні.

**У Брадфордзе** малебень за Беларусь адправіў а. А. Крыт, пасьля чаго адбылася ўрачыстая акадэмія з удзелам прадстаўнікоў ад латышоў і украінцаў. На пачатку акадэміі Бутрымовіч прачытаў рэфэрат на тэму дня, наступна пасьля адчытаньня Трэцяе Ўстаўное граматы, прывіталі беларусаў прадстаўнікі ад латышоў і украінцаў. Палкія слова гэтага апошняга часта перарываліся гучнымі воплескамі, асабліва калі ён заклікаў: «Без незалежнае Беларусі ня можа быць незалежнае Украіны», на салі доўга не змаўкалі воплескі. На мастацкую частку акадэміі злажыліся дэклямацыі і сьпевы ў добрым выкананьні. Некаторыя нумары, як, напр., песьня «На выгнаньні» і раманс «Зорка Вэнэра» ў выкананьні дуэту Мака і Сяўковіча заслугоўваюць на асаблівае прызнаньне. Закончылася ўрачыстасьць адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

#### Агульны Трэці Зьезд ЗБК.

Карыстаючы з Вялікадня і нацыянальнага сьвята Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў адбыло ў Лёндане свой трэці з чаргі, зьезд, на якім пасьля адкрыцьця і прывітаньняў Я. Пілецкі меў даклад аб фэдэрацыйных міжнародных рухах. Наступна адбыліся справаздачы адыходзячае ўправы, з якіх выявілася, што ЗБК усьцяж разьвіваецца, не зважаючы на розныя цяжкасьці.

У склад новае ўправы ЗБК выбрана: старшыня — П. Сыч, заступнік старшыні — Крушына, сакратар — А. Лашук, скарбнік — П. Навара. Выбрана так-жа Рэвізійную Камісію і Сяброўскі Суд.



**Возера на Палесьсі вясною.**

**Б.Х.А.А. «Жыцьцё» і міжнародныя падзеі.**

Трэці Агульны Зьезд Беларускага Хрысьціянскага Акадэмічнага Аб'еднаньня «Жыцьцё», які адбыўся ў Лёндане, між іншымі пастановамі выслаў лісты асуджаючыя, бальшавіцкую агрэсію ў Карэі на адрас Карэйскае Легацыі ў Лёндане і ў сакратарыят Аб'еднаных Нацыяў. На абодва лісты прышлі адказы.

## АРГЭНТЫНА.

**Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка.**

Беларусы з Буэнос Айрэс, Бэрэзатэгуі і дэлегаты з далейшых правінцыяў Аргэнтыны сёлета абходзілі супольна свой нацыянальны дзень у Бэрэзатэгуі, дзе з гэтае нагоды ў праваслаўнай царкве а. Вячорко адслужыў малебень за Беларусь і паніхіду за палёгшых змагароў.

Пасьля багаслужэньня і супольнага абеду адбылася сходка, на якой пасьля прынагадных прамоваў усе прысутныя сьпявалі беларускія народныя песьні.

**Рэха ў прэсе аб 25 Сакавіку.**

Іншанацыянальная прэса ў Буэнос Айрэс з нагоды 33-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі зьмясьціла інфармацыйныя артыкулы аб Беларусі. Украінская газэта «Наш Клич» Нр. 803 падала вялікі артыкул у гішпанскай мове аб беларускіх вызвольных змаганьнях. Нямецкая газэта «Freie Presse» Нр. 1869 падала ў цэласьці камунікат разасланы ў прэсу ўправаю ЗБА. Летувіская газэта «Argentynoje Balsas» Нр. 921 падала той-жа камунікат, дадаючы яшчэ шырокія выясьненьні. Толькі летувіская газэта «Laikas» Нр. 42, падаючы вестку аб угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, парабіла няпрыхільныя для Беларусі зацемкі.

## АЎСТРАЛІЯ.

**Беларуская рэпрэзэнтацыя.**

З нагоды 50-годзьдзя існаваньня Аўстралійскага Коммэнвэльту адбыўся ў Сыднэю ўрачысты паход, на якім побач урадавых аўстралійскіх калёнаў удзельнічалі так-жа і «новааўстралійцы», як асобныя нацыянальныя групы з сваімі сьцягамі. Беларуская група хоць і нешматлікая, але зьвярнула на сябе ўвагу сваею стройнасьцю і сваімі прыгожымі нацыянальнымі строямі.

**Выстаўкі ў Канбэрры і Брысбане.**

Сёлета ў днёх ад 21 да 27 студзеня ў сталіцы Аўстраліі Канбэрры адбылася міжнацыянальная выстаўка ручных вырабаў новае эміграцыі. У гэтай выстаўцы ўдзельнічалі 11 нацыянальнасьцяў, між імі і беларусы. Кожная нацыя мела на выстаўцы свой адзьдзел. Беларускі адзьдзел быў адным з найпрыгажэйшых і сьцягваў да сябе шматлікіх наведвальнікаў. Трэба прызнаць, што арганізацыя і абслуга беларускага адзьдзелу з чэсьцю выканала сваё заданьне.

У днёх 12-17 сакавіка гэтая-ж выстаўка адбылася ў Брысбане і тут беларускі адзьдзел вабіў да сябе шматлікіх глядачоў. На выстаўцы распаўсюджваліся так-жа інфармацыйныя брашуры аб Беларусі. Агулам аглядала выстаўку больш 15.000 чалавек. З Брысбану перавезена выстаўку ў іншыя аўстралійскія гарады.

### Дзень 25-га Сакавіка.

У **Сыднэі** з нагоды 33-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі была адслужана ў салі ІМКА Служба Божая за Беларусь. Папалудні ў той-жа салі М. Лужынскі прычытаў зьмястоўны рэфэрат аб акце 25-га сакавіка. Адсьпяваньнем нацыянальнага беларускага гымну закончылася афіцыяльная частка ўрачыстасьці.

### Агульны Сход Аб'еднаньня Беларусаў Н.П.В.

Папалудні 25-га сакавіка адбыўся у Сыднэі агульны Гадавы Сход Аб'еднаньня Беларусаў Новае Паўднёвае Валіі. Пасьля справаздачы старшыні адыходзячае ўправы і дыскусіі над ёю адбыліся выбары новае ўправы, у склад якое ўвайшлі: старшыня — М. Лужынскі, сябры ўправы — др. Я. Малецкі, А. Смаль, Бакуновіч, В. Клуніцкі і Сіткоўскі. Выбрана так-жа 5 дэлэгатаў на агульны сход беларусаў у Аўстраліі для утварэньня цэнтральнае беларускае арганізацыі ў Аўстраліі.

## БЭЛЬГІЯ.

### Беларускія канцэрты ў Ліежы.

Ансамбль беларускае студэнцкае групы ў Лювэне сёлета часта выязджаў у большыя і меншыя гарады Бэльгіі з беларускімі канцэртамі. Гэтыя выступы ўсюды былі радаснымі падзеямі ў жыцьці беларускіх мяйсцовых работнікаў. Асабліва ўдала быў наладжаны канцэрт у Ліежы 25-га лютага. Месяц пазьней у гэтым-жа Ліежы адбыўся міжнародны канцэрт «Скарбы эўрапэйскага фальклёру», на якім беларускі ансамбль беларускай народнай песьні і танцаў пад кіраўніцтвам праф. М. Равенскага быў азначаны, як найлепшы нароўні з бэльгійскім і украінскім хорамі.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці.

Ува ўсіх большых і меншых беларускіх цэнтрах на абшары Бэльгіі 33-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі азначаны рознымі прынагаднымі ўрачыстасьцямі.

У **Лювэне** была наладжана акадэмія ў Беларускім Студэнцкім Доме, на якой быў прачытаны рэфэрат аб гісторыі 25-га сакавіка. Пасьля дэклямаваліся патрыятычныя беларускія вершы. Закончылася акадэмія адсьпяваньнем гымну і скромным пачастункам.

У **Монс-Аршы** сьвяточная ўрачыстасьць адбылася ў украінскай сьвятліцы. На ўрачыстасьці прысутнічалі так-жа прадстаўнікі ад украінскіх арганізацыяў: СУМ, СУБ і Згуртаваньня Украінскіх Камбатантаў, якія пасьля ўступнае прамовы старшыні мяйсцовага адзьдзелу Саюзу Беларусаў ў Бэльгіі горача віталі беларусаў. Рэфэрат аб гісторыі 25-га сакавіка прачытаў прадстаўнік галоўнае ўправы СББ. Пасьля дэклямацыі патрыятычных вершаў закончылася ўрачыстасьць супольным прыняцьцем.

У **Зольнер і Гаўтален** адбыліся зборкі мяйсцовых адзьдзелаў СББ, на якіх прадстаўнікі з галоўнае ўправы прачыталі рэфэраты, аб вызвольных беларускіх змаганьнях і гісторыі акту 25-га сакавіка.

У **Ліежы** сьвяткаваньне адбылося дня 26-га сакавіка. Раніцаю гэтага дня а. А. Смаршчок адслужыў малебень за Беларусь, пасьля чаго адбылася ўрачыстая акадэмія, на якой прысутнічалі акрамя беларусаў так-жа шматлікія госьці і прадстаўнікі ад казакаў, калмыкаў і украінцаў, якія горача віталі беларусаў з нацыянальным сьвятам. Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў студэнт У. Цьвірка. Закончылася акадэмія адсьпяваньнем беларускага і казацкага гымнаў ды супольнаю фатаграфіяю.

## ГІШПАНІЯ.

### Багаслужэньне за Беларусь.

У дзень 25-га сакавіка ў капліцы Калегіі для чужынецкіх студэнтаў у Мадрыдзе была адслужана Служба Божая ў намераньні Беларускага Народу. На гэтым багаслужэньні акрамя беларусаў прысутнічалі так-жа шматлікія студэнты іншых нацыянальнасьцяў.

## З.Ш.А.

### Беларускі Нацыянальны Дзень.

Амаль ўва ўсіх большых скупленьнях беларусаў на абшары Амэрыкі 33-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі суправаджаліся рознымі ўрачыстасьцямі. Аб гэтых урачыстасьцях шырока паведаміць беларуская амэрыканская прэса дзеля гэтага іх тут не паўтараем.

Іншанацыянальная прэса зьмясьціла з гэтае нагоды камунікаты беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва і шырэйшыя артыкулы аб Беларусі.

### Карта Беларусі.

Выдавецтва «Р» уканцы мінулага году выдала невялікую, але акуратна апрацаваную ў ангельскай мове карту Беларусі, падаючы адменным колерам сучасныя граніцы БССР і этнаграфічныя беларускія граніцы. Зазначаны так-жа сучасны адміністрацыйны падзел.

### Скаўцкі часапіс.

Пасьля трохгадовага перапынку пачаў выходзіць у З.Ш.А. скаўцкі часапіс «Юнак» у такім самым напрамку, як выходзіў раней ў Нямеччыне.

## ІТАЛІЯ.

### Заканьчэньне студыяў.

Імя Пятра Конюха, як шматнадзейнага беларускага сьпевака ўжо няраз успаміналася на старонках беларускае прэсы. Цяпер паведамляюць з Рыму, што ён 21-га лютага атрымаў з Сусьветнае Акадэміі Артыстаў і Прафэсіяналаў ў Рыме дыплём артыста-лірыка з тытулам «Cavaliere Academico».

## КАНАДА.

### Сакавіковая ўрачыстасьць.

Беларусы з Торонто і ваколіц азначылі дзень 25-га сакавіка ўрачыстай акадэміяй, на якой праф. Жук-Грышкевіч прачытаў рэфэрат аб гісторыі і значэньні сакавіковага акту, наступна адбылася мастацкая частка з вельмі ўдалымі сьпевамі, дэклямацыямі і народнымі танцамі.

## НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ.

### Скаўты рухаюцца.

Паміж нешматлікімі беларусамі ў Новой Зэляндыі ёсьць некалькі скаўтаў. Ня маючы магчымасьці мець сваю арганізацыю, яны вядуць скаўцкую працу ў нова-зэляндзкіх скаўцкіх групах, як беларускія сябры. Дзякуючы ім у нова-зэляндзкай прэсе зьяўляюцца зацемкі аб Беларусі, а «Otago Scouting» Нр. 2 выдрукаваў прывітаньне для беларускіх скаўтаў у Францыі ад свайго сябры Марыяна

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Новы часапіс.

За мінулы год на абшары Нямеччыны перастала выходзіць шмат беларускіх часапісаў, затое ад лістапада пачаў выходзіць ратарным друкам новы часапіс «Беларускі Патрыёт», як орган Згуртаваньня Беларускіх Патрыётаў.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новая газэта.

Ад сакавіка месяца г.г. пачала выходзіць у Парыжу ў нядаўна зарганізаванай друкарні «Хаўрусу» новая беларуская газэта «За волю», выдаваная коштам Беларускага Выдавецкага Фонду ў Францыі і дапамогаю гэткіх-жа фондаў у Бэльгіі і Англіі.

### Урачыстасьць у чэсьць акту 25-га сакавіка.

З нагоды 33-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі дня 25-га сакавіка была адслужана ў беларускай капліцы ў Парыжу ўрачыстая Служба Божая за Беларусь з прынагадным казаньнем аб Божым правідзе ў кіраваньні сьветам. Папалудні таго-ж дня сабраліся беларусы з Парыжу і ваколіц у салі «Хаўрусу» на ўрачыстую сходку, якую адчыніў Ул. Шыманец, пасьля чаго прэз. М. Абрамчык сказаў вельмі зьмястоўны і падбадзёрваючы даклад аб тых шляхох, па якіх акт 25-га сакавіка йдзе да свайго ажыцьцяўленьня. Пасьля сьпеваў народных песьняў і дэклямацыяў урачыстасьць закончылася агульным адсьпяваньнем гымну.

### Першая Канфэрэнцыя Вольных Хрысьціянскіх Сындыкатаў.

Сёлета між 31-III і 1-IV адбылася ў Парыжу першая Канфэрэнцыя Вольных Хрысьціянскіх Сындыкатаў Цэнтральнае і Усходняе Эўропы і Балканскіх краёў. На Канфэрэнцыі ўдзельнічала 81 дэлегат, як рэпрэзантанты ад 13 нацыяў. Акрамя таго былі прадстаўнікі некаторых заходня-эўрапэйскіх урадаў і хрысьціянскіх сындыкальных арганізацыяў. Гэтая падзея можа мець паважны ўплыў на разьвіцьцё хрысьціянскага сындыкальнага руху ўва ўсіх сягоньня яшчэ падсавецкіх краінах.

Беларусаў рэпрэзэнтавалі на гэтай Канфэрэнцыі прадстаўнікі ад Хрысьціянскага Аб'еднаня Беларускіх Работнікаў у Францыі і ад Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Бэльгіі. У выніку нарадаў Канфэрэнцыі выбрана Сталае Бюра ў склад прэзыдыюма якога ўвайшоў беларускі прадстаўнік, як першы заступнік старшыні.

### Гадавы Сход БНАМ.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу дня 8-га красавіка адбыўся гадавы Сход сяброў Беларускае Незалежніцкае Арганізацыі Моладзі. Справаздачы старшыні БНАМ і Рэвізійнае Камісіі выказалі, што за мінулы год выканана немалую грамадзкую працу, не зважаючы на невялікую колькасьць дзейных сяброў.

Пасьля абсалюторыі ўступаючай управе выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — М. Наумовіч, сакратар — В. Міцкевіч, скарбнік — Г. Касьцюк. Уканцы намечана вытычныя для пляну працы на бягучы год. Пасьля Сходу разыграна лятэрэю.

---

### ПАДЗЯКА.

Рашкевіч Франціщак разам з усею сваею сям'ёю гэтым шляхам перасылае шчырую падзяку ўсім тым суродзічам, якія прыслалі яму падтрыманьне ў цяжкую хвіліну жыцьця.

### ПОШУКІ

**Сташэўскага** Івана з в. Парэчча шукае дачка Ліда.

Свайго знаёмага **Кашкурэвіча** Арыстарха са Случчыны шукае Турскі А. і супрацоўнікі з музэю.

Хто ведае аб долі **Пракаповіча** Канстанціна з в. Бабровічы на Палесьсі просіцца адгукнуцца на адрас рэдакцыі.

Сваю матку **Рудзько** Аляксандру і сястру Веру шукае Рудзько Антон.

**Гарманюка** Юрку шукае Данута Лешко.

Пісаць на адрас рэдакцыі.

---

**Gérant : D. Kucopej.** Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. **Directeur : Abbé L. Horosco.**

# Абразкі з жыцьця

## ДЗЕ ЖЫВЕ БОГ?

Настаўнік прынагадна спытаў вучняў: «Дзе жыве Бог?» На гэтае пытаньне пачуліся ў клясе розныя адказы: «У небе», — казалі адны; «У чыстым сэрцы», — гаварылі другія; а малы Франук закрычаў на ўвесь голас: «Бог жыве на Доўгай вуліцы ў апошняй хаце налева». Калі сьмех, выкліканы гэтым адказам, крыху супакоіўся, настаўнік спытаў Франука, чаму ён так цьвердзіць. Хлапец адказаў: «Нядаўна я з бацькам ішоў каля гэтае хаты і мне бацька казаў, што гэная хата належыць беднаму шаўцу, які мае васьмёра дзяцей і яшчэ сьляпога дзеда на сваім утрыманьні. У іх часта не стае і ежы, і вопраткі, але яны жывуць у прыкладнай згодзе і ўзаемнай любові. І бацька мне сказаў: «Вось, сыну, тут між імі жыве Бог».

**Паводля «Ст. Конрадсблят».**

## АПОШНЯЯ ПРОСЬБА ДЗІЦЯЦІ.

Адзін амэрыканскі гэнэрал высьмейваў рэлігію, як толькі мог, але ягоная сужонка, наадварот, яна была вельмі пабожная і ў гэткім пабожным духу ўзгадоўвала сваю адзіную дачку, не зважаючы на ўсе спрацівы гэнэрала. Здарылася аднак, што адзіначка цяжка захварэла і лекары каля яе ложка безнадзейна разводзілі рукамі. Хворая адчувала, што зьбліжаецца яе апошняя гадзіна.

— Татка, мой любы татка, — зьвярнулася дачка да гэнэрала, — я за некалькі гадзін памру, але я цябе прашу перад сьмерцю, скажы мне: каму я маю верыць; ці ў тваю гутарку супраць рэлігіі, ці ў тое, што мне гаварыла мама аб небе і аб Богу?

Гэтае пытаньне ўміраючае дачкі так узрушыла гэнэрала, што ён з сьлязамі ў вачох казаў:

— Маё дзіцятка, вер у тое, што табе заўсёды казала мама.

— Дык ты так-жа, татка, мусіш верыць у любага Бога, — казала дочка, гледзячы ў вочы бацькі.

Гэтая апошняя просьба ўміраючае дачкі хутка зьдзейсьнілася: гэнэрал вярнуўся да даўно ўтрачанае веры і ў ёй знайшоў магутную крыніцу падтрыманьня ўва ўсіх жыцьцёвых турботах і адначасна мэту свайго жыцьця.

## НА ВУЛІЦАХ ПАРЫЖА.

У квартале, ведамым з сваіх вольнадумцаў, прайходзіў аднойчы нясустраканы там раней сьвятар. Раптам якісь старэйшы дзядзька ветлівым рухам спыніў сьвятара і спытаўся:

— Скажэце мне, будзьце ласкавы, ці Бог заўсёды існуе?

— Так, заўсёды, — адказаў, зьдзіўлены крыху неспадзеваным пытаньнем сьвятар.

— Дык, скажэце, чаму-ж я Яго ніколі ня бачыў?

—О, мой дружа, вы шмат рэчаў ня бачылі, а да таго ёсьць шмат рэчаў, якіх ані вы, ані ніхто з людзей ня можа бачыць, хоць яны заўсёды існуюць

— Чаму я не магу бачыць? Я маю вельмі добры зор.

— Ну, гэта ня зусім так, адказаў сьвятар, — вось паспрабуйце глянуць на сонца.

Той сапраўды ўзьняў вочы, каб глянуць на сонца, але адразу мусіў іх заплюшчыць.

— Чаму-ж вы заплюпчылі свае вочы?

— Вельмі моцны сьвет, ён гатоў асьляпіць, — адказаў дзядзька.

— Кажаце моцны сьвет, а гэта-ж толькі дробная іскра з бесканечнае Божае веліч̌ы і магутнасьці. Гэта адно, а другое; вочы створаны не на тое, каб імі аглядаць Бога, як не на тое створаны зубы, каб есьці вось гэтыя вулічныя каменьні, вось паспрабуйце ўкусіць іх, пераканаецеся што да чаго.

Сьвятар пайшоў далей, а дзядзька стаяў нейкі час на вуліцы і аб нечым думаў.

## ДОБРАЯ ПАРАДА ЛЕКАРА.

Аднойчы багатыя сужонкі, калі жонка ўжо была ў палажэньні, зьвярнуліся да аднаго шырокаведамага лекара з просьбаю, каб ён перарваў бярэменнасьць. За гэтую апэрацыю абяцалі яму вялікую заплату, абы толькі апэрацыя адбылася з найменшаю шкодаю, для здароўя бярэменнае. На гэта лекар адказаў мужу:

— Я вам раджу пачакаць яшчэ які месяц, а потым паслаць жонку ў жаночую больніцу і там пад добрым даглядам дачакацца прыроднага развязаньня бярэменнасьці, бо досьлед аднагодна сьведчыць, што гэта найменш небясьпечнае для здароўя. А тады ўжо вы самі бяз шкоды для здароўя маці скруціце галаву свайму дзіцяці.

— Як вы сьмееце мне нешта падобнае радзіць?! — абурыўся чалавек на лекара.

— А вы, што, хацелі-б каб гэта я зрабіў? Вы памятайце, што я лекар, а ня кат!

**Паводля «У. В.»**

## ПАЧЫНАЮЦЬ НАРАДЫ МАЛІТВАЮ.

Нядаўна гарадзкая рада ў Торонто (Канада) пастанавіла, што ўсе свае нарады маюць пачынаць малітваю «Ойча наш». Паводля гэтае пастановы кожны сябра рады мусіць стаяць і паўтараць ў паўголаса словы малітвы.